1897-1974

ШНАРКЕВІЧ Надзея Маркаўна, з дому Калядзянка.

Радзілася 30 верасьня 1897 году ў Берасьці. Бацька быў начальнікам станцыі на Берасьцейскай чыг. лініі. Мела 7 гадоў, калі Бацька памёр. Тады сям'я выехала ў вёску Вострава Кобрынскага павету, а пасьля ў г.Пружаны. Там скончыла прыватную жаночую гімназыю і Вышэйшую пачатковую пэдагагічную школу. Палову года працавала ў вёсцы, у царкоўнапрыходскай школе, а пасьля ў школе дзяржаўнай. Падчас першай сусьветнай вайны выехала з Маткай у Сызрань - "у бежанства". Там працавала спачатку ў школе, а пасьля рэвалюцыі -- ў Аддзеле Народнай Асьветы.
У 1919г. вярнулася у Пружаны. Там яшчэ скончыла настаўніцкія курсы і працавала ізноў у школе.
У 1925 годзе прыехала ў Вільню.
Спачатку працавала загадчыцай Інтэрнату пры Віленскай Беларускай Гімназыі. Пасьля - ў Т-ве Бел. Школы, якое зьмяшчалася на Віленскай 12. Прыймала ўдзел ў стварэньні Бел. Жаночай арганізацыі імя Цёткі, а таксама ў органе гэтай арганізацыі - часопісі "Жаноцкая Справа", першы нумар якой выйшаў у студні 1931г.
У 1926г. выйшла замуж за выкладчыка Віл.Бел.Гімн. Язэпа Шнаркевіча. Амаль у той самы час пачала хварэць: язва страўніка... Здароўе што раз горшае і горшае, але гэта не перашкаджае ўсім цікавіцца і

прыймаць удзел у грамадзкім жыцьці. Праходзяць месяцы, гады... Хатняй гаспадаркай займацца ўжо няма сілы. Нарэшце, хвароба змушае легчы... Але і тады ня кідае работы. Шые, гафтуе, робіць гачыкам блюзкі, сукенкі, свэтры для ўсёй сваёй сям'і.
Але ня толькі. Шмат чытае, перапісываецца з бел. дзеячамі, знаёмымі. Урэшце, бярэцца сама пісаць. Насамперад апрацавала ўспаміны Мужа аб Нясьвіска-Клецкай гімназыі. Лістоўна ўвайшла ў сувязь з былымі вучнямі гэтых гімназыяў, здабыла фатаграфіі
Год 1968. С.М.Новік-Пяюн бярэцца афарміць матэрыялы Н.-Кл. гімназыі ў форме альбому. Н.М. вядзе з ім перапіску. Купляе паперу на альбомы і высылае яму ўсё гэта. Так паўстае альбом: "Нясьвіска-Клецкая Беларуская Гімназыя".
Пачынаецца 1969г., а з ім і клопаты аб матэрыялы да гісторыі Віленскай Бел. Гімназыі. Н.М. перапісываецца з тымі, хто можа даць матэрыялы: артыкулы, успаміны, здымкі і г.д. Адначасна пачынаем зьбіраць успаміны былых вучняў В.Б.Г. Кожны ліст /перапісываемся, бо я рэдка магу адведываць Н.М./ у большасьці гаворыць аб гэтых справах.
У пачатку 1969г. займае яе думка аб патрэбе стварэньня нейкай арганізацыі дзеля прапаганды народнай мастацкай творчасьці /ткацтва, разьбы і г.д./ Піша аб гэтым артыкул. Пасылае ў ЛІМ. Рэдакцыя нават не адказала... Далей клапоціцца, каб са-

брацъ як найбольш здымкаў да гісторыі В.Б.Г. Запрашае да сябе былых вучняў гімназыі. Агітуе, каб зьбіралі патрэбныя матэрыялы. Атрыманае перапісывае, калі трэба - папраўляе, і вядзе перапіску з С.М.Новікам у справе альбому В.Б.Г.
Усё гэта лежучы...
У гэтым самым 1969г. паўстае думка, каб для Гудзевіцкага музэю зрабіць экспанат-ляльку ў палескай нацыянальнай вопратцы. На просьбу Н.М. яе знаёмая з Палесься прысылае аўтэнтычныя даматканыя матэрыялы. З немалым высілкам /бо лежучы шыць нялёгка/ робіцца лялька і адсылаецца ў музэй.
Ізноў стараньнямі Н.М. паўстае новы альбом - "Радашкаўская Бел. Гімназыя".
Летам 1969г. адведывае Н.М. група маладых вучыцелёў бел. мовы сярэдніх школ Беларусі. Наракаюць, што бел. пісьменьнікі адарваныя ад народу, ня маюць ніякай сувязі са школамі. У Н.М. паўстае думка: каб кожны пісьменьнік узяў шэфства над пару школамі і апекаваўся імі.
Даведаўшыся, што ў П.Сергіевіча ёсьць шмат здымкаў з Бел. Музэю імя Івана Луцкевіча, прапануе зрабіць з іх альбом, каб хоць такая памятка па музэю асталася. Хоць я ня раз патрабавала, каб гэтую думку нябожчыцы ажыцьцявілі, нічога дагэтуль не дабілася, а ў разе сьмерці Мастака архівы яго забяруць і - ўсё...

На маю ўвагу да Н.М., што ўсе гэтыя "клопаты" цяжка адбІваюцца на здароўІ, яна мне пІша: "Мне гэтыя клопаты нІхто не накІдае, я сама хапаюся за Іх, бо І як жа жыць з пустым сэрцам? Да чаго ж давядзе такое абядненьне духовае? ТолькІж гэтыя клопаты І даюць мне маральную сІлу зносІць усе мае асабІстыя цяжкасьцІ. ІмІ-жа, гэтымІ клопатамІ жыву..."

Люты 1970г. У Н.М. новая Ідэя. Яна даведалася, што суседка Ксеня, якая прыехала ў ВІльню 10 гадоў назад, ад дзяцІнства амаль пяяла на вясельлях, добра ведае ўвесь цыкль вясельных песень - ад запоІнаў да канца, І таксама ведае ўсе вясельныя звычаІ /абрады/.

Н.М. кажа аб гэтым А.КлІмовІчу. Той шчыра радзІць узяцца запІсываць словы песьняў, а сам ахвотна згаджаецца запІсаць мэлёдыІ /Мы з с.п. Сынам радзІлІ магнІтафон, але А.КлІмовІч чамусьцІ гэтую думку адкІнуў/.

Н.М. запІсывае словы, пасьля бярэцца за падзеІ /абрады/. А.КлІмовІч запІсывае мэлёдыІ. Яго сьмерць перарывае работу. Далей запІсывае мэлёдыІ П.Каруза. Усё заканчываецца, а што з гэтымІ, такІмІ цэннымІ матэрыяламІ рабІць далей?

У гэтым менш-больш часе ў лІтоўскай тэлевІзІІ давалІ "ЛІтоўскае вясельле". Цудоўна зробленае!

Аб такІм выкарыстаньнІ "Беларускага вясельля" аж сьнІцца...

Н.М. піша да Г.А.БарташэвIч. ВельмI доўга не было нIякага адказу. Нарэшце, Г.А.БарташэвIч прыехала I, здаецца, матэрыялы ўзяла. На тым I скончылася...
Дома ў Н.М. Iдзе мастацкая работа. ПляменьнIк Я.ШнаркевIча Я.Тулейка тчэ на маленькIх кроснах цудоўныя паяскI, закладкI, гальштукI. Ад яго навучылася ткаць Ю.Я.БIбIла. Паўстае думка зрабIць з гэтых паяскоў альбом. Я.Т. I Ю.Б. абменIваюцца ўзорамI I кожны з Iх са сваIх работ робIць альбом. Н.М. дастае тут, у ВIльнI паперу на альбом для Ю.Б. Пасылае паперу I на вокладку - тканы ручнIк /белая бавоўна, а па ёй - узор з жоўта-залацIстага лёну/.
II/УШ Н.М. са здаволеньнем прыпамIнае, што пазнаёмIлася з А.М.Белакозам, якI прыяжджаў з экскурсыяй беларускIх настаўнIкаў Горадзеншчыны /цI толькI Мастоўскага раёну?/.
У кастрычнIку А.КлIмовIч падзялIўся з Н.М. сваIм праектам - напIсаць "БеларускI падарожнIк па ВIльнI". Рэч прадбачылася вельмI цIкавая. Гістарычныя весткI, а далей - пра ўсе мейсцы ВIльнI, зьвязаныя з БеларускIм рухам. Н.М. прыймае ў гэтым гарачы ўдзел. На жаль, хвароба А.КлIмовIча хутка спынIла работу.
ПаднялI пытаньне аб гIсторыI Навагрудзкай Бел. ГIмн. Абяцаў узяцца за гэтую справу А.АнIшчык.

Ён там вучыўся. Мае знаёмых, мае магчымасьцІ дастаць матэрыялы. Мы з Н.М. цешым сябе надзеяй, што гэта будзе зроблена.
1971... Пасьля сьмерцІ былога дырэктара ВІл.Бел. ГІмн. АнцукевІча думкІ Н.М. занятыя пытаньнем: у якІ спосаб паразумецца з сынамІ нябожчыка, каб пераглядзець спадчыну?
Ад часу да часу мае Дачка І Зяць наведываюць Н.М. І, узяўшы свой апарат, паказваюць ёй дыяпазытывы сваёй работы. Кожны раз пІша мне аб гэтым з вялІкай удзячнасьцю.
Пачаўся 1973г. З хваробамІ Н.М. не лягчэй, а да таго - вялІкІ неспакой ад Мужа. У яго вострая склероза, цяпер - запаленьне лёгкІх раз за разам. Неспакойны, парой "буйны"...
Але І ў гэты цяжкІ час Н.М. не забываецца на альбомы, чакае: а мо яшчэ Іх пабачыць гатовымІ? Матэрыял да ВБГ гатовы: І тэкст, І здымкІ. Але няма адпаведнай паперы на альбом. Думаем, радзІмся.
Нарэшце, гэтую справу даручаем С.М.НовІку-Пяюну. Ён-жа будзе ўсё мантаваць. Нарэшце, добрая вестка з Менску. ЛІдзІя Іванаўна ЗбралевІч абсталявала ў майстэрнІ АкадэмІІ 2 альбомы - на ВБГ І "на сьпевака М.Забэйду". Пры чым бязплатна...
Н.М. памІма фІзычных цярпеньняў неяк павесялела.
У канцы красавІка 1974г. я наведала хворую. Выглядала вельмІ блага... Памерла 21 мая 1974г.

1886 – 1974

ШНАРКЕВІЧ Язэп Канстанцінавіч.

Радзіўся 10 чэрв. 1886г. у вёсцы Саская Ліпка Нясьвіскага павету. Бацькі - малазямельныя сяляне. Перад паступленьнем у вучыцельскую сэмінарыю памагаў бацькам пры гаспадарцы. Скончыўшы ў Нясьвіжы Вучыцельскую сэмінарыю, ад 1907 да 1913г. працаваў вучыцелем спачатку ў Вялікім Сяле Менскага павету, а пасьля - ў двуклясавай чыгуначнай школе на станцыі Гомель. У 1913г. пайшоў вучыцца ў Магілёўскі Вучыцельскі Інстытут і скончыў яго ў 1916г. Зараз-жа быў мабілізаваны і служыў салдатам, спачатку ў 9-м пяхотным запасовым палку, а пасьля ў 35 асобнай тэлеграфнай роце.
Здэмабілізаваны, ізноў працаваў вучыцелем: ад 1/I-1918 да 1920 - у Менску, у 22 пачатковай школе і ў Першай вышэйшай пачатковай школе, а пасьля ад 1921 да 1923г. - у Бел. Нясьвіскай Гімн. Быў там выкладчыкам у I і II кл., а таксама выкладаў бел. мову ад III да УIII кл. уключна. Калі Нясьв. Гімн. была зачынена польскімі ўладамі, дастаў канцэсыю на коэдўкацыйную 8-мі кл. гімн. з выкладовай мовай беларускай. Але хутка, ужо ў лістападзе г.г. быў зусім звольнены з працы.
Тады прыехаў у Вільню і працаваў сакратаром ТБШ. У 1927г. быў арыштаваны.

у 1925-26г.г., а таксама ад 1928 да 1933г. быў выкладчыкам у ВIленскай Бел. ГIмназыI. Выкладаў у малодшых клясах: рысаваньне, бIялёгIю, пяяньне ды ручныя работы /для хлапцоў - сталярку/. Ад 1933 да 1936г. - у 13-ай I 36-ай пачатковых школах.
Ад 1936 да 1939г. быў бяз працы.
У пачатку польска-нямецкай вайны быў арыштаваны I высланы ў Картуз-Бярозу,
Ад I кастрычнIка 1939г. назначаны ў 34-ю пачатковую школу.

/з аутабIяграфII/.

ЗамIлаваны пчаляр I садоўнIк. Увесь вольны час аддае працы ў сваIм садзе I пры пчолах. А калI выйша ў на пэнсыю, праца ў садзе I на пасяцы была яго жыцьцём. СупрацоўнIчаў у "Бел.БорцI". НапIсаў 2 паважныя I карысныя артыкулы: "Медаваньне расьлIн" I "АпошнI агляд пчолаў на зIму".
18 сакавIка 1934г. на агульным сходзе сябраў Т-ва "Пчала" выбраны ў новую Наглядную Раду Т-ва.
АпошнIя гады шмат хварэў. Памёр ад запаленьня лёгкIх 30 ЛIстапада 1974г. Пахаваны на ВылIнах побач жонкI.

45
14
59

У чаканьні сьвяткаваньня юбілею Віленскай Беларускай Гімназіі міжволі вяртаемся ў думках да постацяў тых людзей, якія мелі самае непасрэднае дачыненьне да гэтай слаўнай навучальнай установы. Сярод іх няма ла заслужаных на ніве беларускай культуры і асьветы ды ўсяго беларускага руху.

Да сьціплых руплівцаў у галіне беларускай асьветы належыць сужэнства Надзея і Язэп Шнаркевічы, якія пражылі ў Вільні міжваенны час, вайну і пасьля вайны ажно да самае сьмерці. Абое яны беларускія пэдагогі, што бясспрэчна яднала іх у сумесным жыцьці. Абое працавалі таксама ў Віленскай Беларускай Гімназіі.

Надзея Шнаркевічыха, дзявочае прозьвішча Калядзянка, нарадзілася 30 верасьня 1897 году ў Берасьці. Бацька быў начальнікам станцыі на Берасьцейскай чыгунцы; памёр, як мела ўсяго 7 гадоў. Тады сям"я выехала ў вёску Вострава Кобрынскага павету, а пасьля ў мястэчка Пружаны. Там скончыла прыватную жаночую гімназію і Вышэйшую пачатковую пэдагагічную школу. Працавала настаўніцай у царкоўна-прыхадзкой школе, пасьля ў школе дзяржаўнай. Падчас першай сусьветнай вайны выехалі з маткай як уцекачы ў Сызрань. Там таксама працавала ў школе, а пасьля рэвалюцыі - у Аддзеле Народнай асьветы. У 1919 годзе вярнулася ў Пружаны, там яшчэ скончыла настаўніцкія курсы ды ізноў працавала ў школе.

У пачатку 20-х гадоў пераехала ў Вільню. Спачатку працавала загадчыцай інтэрнату пры Віленскай Беларускай Гімназіі, пасьля ў Таварыстве Беларускай Школы, якое мясьцілася на Віленскай вуліцы 12. У другой палове 20-х гадоў у Вільні існаваў Беларускі Народны Дом, які знаходзіўся на вуліцы сьв. Ганны № 2. У ім ладзіліся вечарыны, чыталіся лекцыі, нейкі час загадчыцай гэтага дому была Надзея Шнаркевіч, у ім зьмяшчаўся тады і Сакратарыят Таварыства Беларускай Школы. У 1926 годзе выйшла замуж за выкладчыка Віленскай Беларускай Гімназіі Язэпа Шнаркевіча.

Надзея Шнаркевіч прымала ўдзел у стварэньні Беларускай Жаночай арганізацыі імя Цёткі, а таксама ў органе гэтай арганізацыі часопісу "Жаноцкая Справа", першы нумар якой выйшаў у студзені 1931 году.

Ня гледзячы на слабое здароўе, стан якога ўсьцяж пагаршаўся, Надзея Шнаркевіч на працягу усяго жыцьця актыўна займалася грамадзкай дзейнасьцю, хаця пэдагагічную працу давялося пакінуць. Яна заўсёды была добра паінфармавана аб падзеях у грамадзкім жыцьці беларусаў Вільні, праяўляла каштоўныя ініцыятывы. Нават у тыя пасьляваенныя часы, калі ў Вільні і на Віленшчыне усякія праявы беларускага грамадзкага жыцьця былі забаронены, усё ж яна імкнулася прынамсі зьберагчы гістарычную памяць. Магчымасьці публікацыяў у беларускім друку практычна тады ня было. І ўсё ж па яе ініцыятыве сумесна з віленскай пісьменьніцай Зоськай Верас былі створаны альбомы, у якіх адлюстроўвалася гісторыя беларускіх гімназіяў у Клецкі і Нясьвіжы, у Радашкавічах, Віленскай Беларускай Гімназіі, Жыцьцяпіс сьпевака Міхася Забэйды-Суміцкага, лёс Віленскага Беларускага Музэю. Вяла шырокую перапіску, турбавалася заняпадам беларускага школьніцтва на радзіме, імкнулася ўплываць на спыненьне працэсу дэградацыі беларускай культуры. Памёрла у 1974 г. пахавана на Ефрасініўскіх могілках у Вільні

Язэп Шнаркевіч нарадзіўся 10 чэрвеня 1886 году у вёсцы Саская Ліпка Нясьвіжскага павету. Бацькі малазямельныя сяляне. Скончыўшы ў Нясьвіжы вучыцельскую сэмінарыю ад 1907 да 1913 году працаваў настаўнікам у Менскім павеце, пасьля ў чыгуначнай школе у Гомелі. Пайшоў вучыцца далей у Магілёўскі Вучыцельскі Інстытут і скончыў яго ў 1916 годзе. Тады быў мабілізаваны і служыў салдатам, спачатку у пяхотным палку, а пазьней у асобнай тэлеграфнай роце. Пасьля дэмабілізацыі ізноў працаваў вучыцелем - сьпярша ў Менску, а з 1921 году ў Беларускай Нясьвіжскай гімназіі. Быў настаўнікам у I і II-ой клясах, а таксама выкладаў беларускую мову ва ўсіх астатніх клясах гімназіі.

Пасьля закрыцьця Нясьвіжскай беларускай гімназіі Язэп Шнаркевіч пераехаў у Вільню, дзе працаваў настаўнікам Віленскай Беларускай Гімназіі да 1933 году. Выкладаў рысаваньне, [redacted] біялёгію, сьпеў і ручныя работы. Пазьней працаваў у пачатковых школах. Актыўна удзельнічаў у працы Таварыства Беларускай Школы, нейкі час быў сакратаром таварыства. У сувязі з гэтай працай арыштоўваўся польскімі ўладамі.

У Вільні Шнаркевіч прыдбаў драўляны дом на ўскраіне горада у канцы вуліцы Субач над самай рэчкай Вялейкай, з зямельнай дзялянкай. Ён быў замілаваным пчаляром і садоўнікам. Меў там пасеку і добры сад з гародам. Быў сябрам Беларускага каапэратыўнага Таварыства "Пчала", уваходзіў у склад яго рады. Супрацоўнічаў у часопісе "Беларуская борць", публікаваў там свае артыкулы з галіны пчалярства.

Перад пачаткам польска-нямецкай вайны быў арыштаваны польскімі ўладамі і накіраваны ў канцэнтрацыйны лягер у Картуз-Бярозе бяз сьледзтва і суда. Пасьля разгрому Польшчы вярнуўся ў Вільню.

Язэп Шнаркевіч увесь вольны ад пэдагагічнай працы час, а затым выйшаўшы на пэнсыю, аддаваў заняткам у садзе і пры пчолах. Дапамагаў і жонцы ў яе ініцыятывах. На падставе яго успамінаў быў складзены альбом гісторыі Нясьвіжскай Беларускай гімназіі.

Язэп Шнаркевіч і Надзея Шнаркевіч памерлі ў адзін і той самы 1974 год. Пахаваны побач на праваслаўных могілках на Ліпаўцы у Вільні.

Лявон Луцкевіч - для радыё "Свабода" - Вільня.